Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
В.а. галоўнага рэдактара
і заснавальнік Павел Жук
Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, г.Мінск,
вул. Змітрака Бядулі, 6-47.
Тэл/факс: 236-89-40

# НАВІНЫ



Серада, 24 сакавіка 1999 г. № 32 (563) Кошт свабодны

# Дзень Волі – Святы дзень

Незалежнасць Беларускай дзяржавы, абвешчаная Радай БНР 25 сакавіка 1918 года, цалкам змяніла лад жыцця нашага народа. Хто звўся тутэйшым — пачаў звацца беларусам, хто не меў радзімы — адшукаў яе, хто быў ніякім — займеў грамадзянскую годнасць.

Ворагі беларушчыны ніколі не маглі змірыцца з абуджэннем беларусаў да самастойнага існавання. Сем дзесяцігоддзяў ЧК, НКУС, КДБ па загадах маскоўскага ЦК сіліліся вынішчыць справу і памяць пра БНР, праводзілі моўны генацыд, выціралі з газетных і кніжных палосаў узгадкі пра Дзень Волі, імёны найлепшых сыноў і дачок народа, якія ахвяравалі народу свой талент, усе сілы, сваё жыццё. Савецкія карнікі знішчалі людзей фізічна, цягнікамі вывозілі беларусаў у лагеры ГУЛАГа, перасялялі ў Сібір. Ды насуперак тэрору і рэпрэсіям ідэя БНР выжыла. Перажыве яна і сённяшняе ліхалецце.



Прэзідэнт БНР Пётра Крэчэўскі, які ачольваў урад у выгнанні, напярэдадні сваёй заўчаснай смерці ў 1928 годзе, запавятаў шанаваць і берагчы ідэалы Беларускай Народнай Рэспублікі, якія падобна зорцы, даюць беларусу накірунак руху. Народ, які шануе сваю нябесную зорку, здолее выйсці з дрыгвяністых туманоў, у якія завяла яго дзеля продажу ўсходняму суседу здрадніцкая ўлада. «Наша няшчасьце ў тым, — пісаў прэзідэнт Пётра Крэчэўскі, — што на працягу ўсёй дзяржаўна-адраджэнскай працы мы на адпаведных становішчах выканаўчай улады бачылі мала сумленных людзей, і цяпер яны апынуліся ў варожым стане свайго народу».

І сёння ўсе ўладарныя пасады ў краіне займаюць людзі з варожым да Беларусі сэрцам. У абставінах дэмакратычнай Еўропы гэтым трымальнікам улады цяжка вярнуць савецкую прошласць, калі ўсё вырашалася проста — куляй у Курапатах ці лагерам на Калыме. Зараз яны атручваюць душы бессаромнай хлуснёй. Але магія падману не дзейсная, калі людзі перастаюць верыць вешчунам. Сёння ідэі незалежнай Беларусі даюць людзям духоўнае апірышча. Духоўная моц БНР створана намаганнямі тых, хто перад расстрэлам у Курапатах крычаў сваім катам: «Жыве Беларусь!», і тых, хто марыў пра шчасце Радзімы ў сталінскіх лагерах смерці, і тых, хто насуперак вогнепаклоннікам з НКУСа захоўваў забароненыя кнігі на беларускай мове, хто навучаў сваіх дзяцей любіць родную краіну, а не крамлёўскія вежы, хто ствараў культурны падмурак беларускай дзяржавы.

Зараз, калі прэзідэнт Лукашэнка стараецца выканаць векавечнае жаданне Масквы аб знішчэнні самастойнай беларускай дзяржавы, абарачэнні беларусаў у «крэсавых рускіх», ідэі Беларускай Народнай Рэспублікі, зацверджаная БНР дзяржаўная сімволіка, шэраг яе выдатных дзеячаў, чыё жыццё служыць узорам мужнасці і высакародства, заклікаюць кожнага беларуса аберагчы вольнасць Радзімы, сваю годнасць, сваю будучыню на зямлі.

Але мы будзем мець столькі волі, колькі здолеем абараніць.

# Мы – добраахвотнікі,

## сцвярджаюць у выбарчым штабе Чыгіра

Ужо больш за 100 тысяч грамадзянаў Беларусі выказаліся за вылучэнне кандыдатам у прэзідэнты Міхаіла Чыгіра. Аб гэтым паведаміў каардынатар групы падтрымкі былога прэм'ера Уладзімір Барадач. У адказ на пытанні карэспандэнта НАВІНАЎ ён распавёў пра дзейнасць ініцыятыўнай групы.

*— Колькі чалавек працуе ў штабе і ва ўсёй групе па зборы подпісаў за Міхаіла Чыгіра?*

— Усяго нас 2.750 чалавек. 100 тысяч подпісаў ужо сабрана, але праца працягваецца, для падстрахоўкі. Да 25 сакавіка будзе сабрана яшчэ некалькі дзесяткаў тысяч подпісаў.

*— Хто ўваходзіць у вашую групу?*

— Звычайныя грамадзяне: рабочыя, студэнты, інтэлігенцыя. Шмат былых вайскоўцаў, у тым ліку і міліцыянтаў.

*— З першых дзён кампаніі зборшчыкаў подпісаў пачалі затрымліваць ды папярэджваць аб тым, што яны «сталі на шлях злачынства». Гэта адбываецца і цяпер?*

— У апошнія дні ціск быў нават мацнейшы: затрымалі дзесяткі нашых актывістаў з падпіснымі лістамі, многіх без «улікаў», проста па даносах. Але ўлады позна спахапіліся — справа ўжо зробленая.

*— Хто, па вашых назіраннях, кіраваў дзеяннямі супраць зборшчыкаў подпісаў?*

— Адназначна супрацоўнікі КДБ на месцах. З іх падачы людзей выклікалі да пракурораў, затрымлівалі і адводзілі ў пастарункі.

*— А як паводзяць сябе міліцыянты?*

— Большасць падпарадкоўваецца загадам, хоць разумее іх кан'юнктурнасць. Даходзіць да абсурдных сітуацыяў: тыя, хто затрымаў чалавека, выступаюць і сведкамі ягонага «правапарушэння». Але ёсць і супрацьлеглыя выпадкі. У адным з аддзяленняў міліцыі Мінска супрацоўнікі адмовіліся складаць пратаколы на зборшчыкаў подпісаў, якіх затрымалі без усякіх падставаў.

*— Афіцыйныя асобы сцвярджаюць, што зборшчыкам плацяць грошы за кожны подпіс. Гэта праўда?*

— Лухта. Спачатку выдумалі, што подпіс каштуе долар, потым — што 8—10 мільёнаў... Улады ўзялі на ўзбраенне прынцыпы гебельсаўскай прапаганды, згодна з якімі неверагоднаму падману хутчэй павераць. Гэтыя людзі як прыйшлі на ілжы, на ёй і трымаюцца.

*— А як на самой справе, няўжо вы ніяк не заахвочваеце сваіх актывістаў?*

— Усе працуюць добраахвотна. Мы пакрываем толькі праезд, кампенсуем іншыя неабходныя траты. Але некаторыя і ад гэтай кампенсацыі адмаўляюцца.

*— Як вашыя людзі ўспрынялі абвінавачванні ў тым, што іх «падкупілі»?*

— Ніхто не звяртае ўвагі, бо іншага ад уладаў і не чакалі. Пакуль мы нават ніякай заявы на гэты конт не рабілі. Вось адпрацуем да 25 сакавіка, а там разбярэмся. Выбары мы ўсё роўна правядзем, і перамога будзе за намі.

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ**

## У ААН – пра Беларусь

**22 сакавіка ў Жэневе (Швейцарыя) пачала работу чарговая сесія ААН па правах чалавека. Сярод іншых пытанняў сесія разгледзіць факты парушэння правоў чалавека ў Беларусі.**

У сесіі ўдзельнічаюць прадстаўнікі афіцыйных уладаў Беларусі на чале з віцэ-прэм'ерам, міністрам замежных справаў Уралам Латыпавым. Дэмакратычныя сілы Беларусі на сесіі прадстаўляе каардынатар Хартыі-97 па міжнародных справах Андрэй Саннікаў. Пасля заканчэння работы сесіі А.Саннікаў мае намер наведаць Вашынгтон, дзе возьме ўдзел у семінары па пытаннях дзейнасці АБСЕ, а таксама ў канферэнцыі па Беларусі, якую праводзіць Гарвардскі універсітэт.

**А.Д.**

# Патрабаванні прафсаюзаў не выконваюцца

**Кіраўніцтва прафсаюза аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання мае намер арганізаваць 15 красавіка ў Мінску акцыю пратэсту працоўных. Такім чынам лідэры гэтага прафаб'яднання хочуць дамагчыся ад уладаў выканання палажэнняў рэзалюцыі, прынятай рабочымі на мітынгу 27 студзеня.**

Нагадаем, што ўдзельнікі той акцыі (каля 15 тысяч чалавек) запатрабавалі ад уладаў прыняць неадкладныя захады па паляпшэнні жыцця насельніцтва. У адваротным выпадку працоўныя паабяцалі паставіць пытанне аб «дзеяздольнасці цяперашняга ўрада».

Па словах намесніка старшыні прафсаюза аўтамабілебудаўнікоў Аляксандра Еўдакімчыка, ад часу студзеньскай акцыі прайшло ўжо амаль два месяцы, а асноўныя патрабаванні працоўных так і застаюцца нявыкананымі. *«Цэны растуць, інфляцыя не спыняецца, а зарплата ў Беларусі з'яўляецца далёка не першачарговым плацяжом. Таму мы і вырашылі звярнуцца ў федэрацыю прафсаюзаў Беларусі з прапановай правесці ў сталіцы шэсце і мітынг пратэсту»,* — сказаў сп.Еўдакімчык. Ініцыятыву аўтасельгасмаша прэзідыум ФПБ, у які ўваходзяць прадстаўнікі 34 галіновых прафсаюзаў, павінны разгледзець 25 сакавіка.

Па словах А.Еўдакімчыка, зарплаты ў членаў іхняга прафсаюза яшчэ не самыя нізкія, але аўтасельгасмашаўцы спадзяюцца, што сваёй прапановай ім удасца абудзіць да больш актыўных дзеянняў іншых працаўнікоў, у першую чаргу бюджэтнікаў. Да незалежных прафсаюзаў ініцыятары гэтай акцыі пакуль не звярталіся, але, як нам паведамілі ў штаб-кватэры СПБ, *«нягледзячы на пэўныя рознагалоссі, Свабодны прафсаюз гатовы падтрымаць пратэст сваіх калегаў».*

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

# На мытні – новыя парадкі

**У наступны панядзелак пачынаюць дзейнічаць новыя мытныя нормы для грамадзянаў, якія перасякаюць беларускую мяжу.**

Як паведаміў начальнік упраўлення Мытнага камітэта Валерый Ярашэўскі, новыя нормы былі прынятыя, каб спрасціць механізм сплаты мытных пошлінаў.

Па новых правілах на тэрыторыю Беларусі можна свабодна ўвозіць асабістыя рэчы на суму не больш як 1 тысяча долараў, інакш давядзецца плаціць 30% ад кошту рэчаў. Аднак тыя грамадзяне, якія назаўсёды пераязджаюць у Беларусь, не будуць плаціць ніякіх пошлінаў за ўвоз сваёй асабістай маёмасці, колькі б яна ні каштавала.

Даволі сур'ёзныя змены адбыліся ў той частцы заканадаўства, якая датычыць увозу аўтамабіляў у Беларусь. Усе існаваўшыя раней абмежаванні цяпер знятыя. Вязіце столькі аўтамабіляў, колькі хочаце — толькі плаціце пошліну. Яна складае: для аўтамабіляў, якім не больш за 3 гады ці больш за 10 гадоў — 0,5 еўра за 1 кубічны сантыметр аб'ёму рухавіка, для аўтамабіляў «ва ўзросце» ад 3 да 10 гадоў — 0,35 еўра за адзін «кубік». Такім чынам, узамен на права свабоднага ўвозу транспартных сродкаў у Беларусь адбылося падвышэнне мытнай пошліны на 16-70%.

Яшчэ адна навіна: цяпер грамадзяніну неабавязкова самому выязджаць за мяжу, каб набыць там аўтамабіль, — ён можа даручыць пакупку іншай асобе. Аднак усе такія выпадкі будуць рэгістравацца мытняй, і гэтая інфармацыя будзе потым перадавацца ў падатковыя органы. Калі высветліцца, што нехта сістэматычна зарабляе сабе на жыццё перагонкай аўтамабіляў з-за мяжы, дык падатковая інспекцыя будзе з ім сур'ёзна разбірацца.

Як і раней, на тэрыторыю Беларусі можна ўвезці не больш за 3 літры алкаголю ці 600 цыгарэтаў. Але ўведзеныя абмежаванні на ўвоз з-за мяжы ювелірных вырабаў (не больш за 5 рэчаў), футраў (не больш трох) і відэаапаратуры (не больш за 1 камеру ці відэамагнітафон). Асобнае патрабаванне — да набытай за мяжой мэблі: пошліна на яе складае 50%. Так Беларусь абараняе ўласны рынак.

Што ж датычыць вывазу рэчаў і грошай за мяжу, то правілы не змяніліся. Як і раней, за межы Беларусі нельга без дазволу і давядак вывезці больш за 500 долараў і асабістых рэчаў не больш чым на 10 тысяч долараў. Валерый Ярашэўскі слушна заўважыў, што часцей за ўсё ўвядзенне мытных абмежаванняў не спрые эканамічнаму развіццю дзяржавы, а дапамагае «некаторым людзям» абагаціцца.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# СНІД распаўзаецца

**Як паведамілі ў рэспубліканскім цэнтры прафілактыкі СНІД, на першы дзень вясны ў Беларусі зарэгістравана 2.407 ВІЧ-інфіцыраваных.**

Медыкаў хвалюе той факт, што «чума ХХ стагоддзя» за кароткі час распаўзлася па ўсёй тэрыторыі нашай краіны. ВІЧ-інфіцыраваныя выяўлены ўжо на 73 адміністратыўных тэрыторыях. Сітуацыя абвастрылася на Брэстчыне, у Пінску і Баранавічах. У Мінску зарэгістравана 245 носьбітаў смяротнага вірусу.

Як сцвярджаюць спецыялісты, афіцыйныя дадзеныя яшчэ не адлюстроўваюць рэальнай сітуацыі. Цікава, што ананімнае тэставанне на СНІД у нас штогод праходзіць усяго каля 30 тысячаў чалавек. Затое ў закрытых установах колькасць інфіцыраваных вырасла. Паводле аператыўных дадзеных МУС, у турмах выяўлена 636 носьбітаў смяротнай інфекцыі.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# Горад Гродна, БНР

Рузвельт калісьці сказаў, што самыя важныя для чалавека свабоды — слова, рэлігіі і свабода ад страху. Мэта кожнага антыдэмакратычнага кіраўніка — трымаць людзей у страху. Аднак калі А.Лукашэнка, гаворачы аб апазіцыі, якая змагаецца з ім палітычнымі метадамі, увесь час паўтарае словы «біць па мордзе», дык міжволі задумаешся: хто каго больш баіцца? Калі яму няма чаго баяцца, навошта тады пагражаць, запалохваць?

Лукашэнку, канечне, удалося пасеяць у грамадстве страх. Вертыкальшчыкі, напрыклад, баяцца яго, як агню. Астатнія баяцца болей не яго, а таго, што да канца месяца ім не хопіць заробку, каб пракарміць сям'ю. Такім чынам, ён як бы робіцца зусім не страшным, апускаючыся ў шкале страхаў на апошнія месцы. У кожнай кватэры ёсць тэлевізар, праз які прэзідэнт палохае грамадзянаў. Аднак у кожным раёне ёсць камісіі, па дзесяць чалавек, якія не баяцца ўдзельнічаць у арганізацыі новых прэзідэнцкіх выбараў. Ініцыятыўныя групы збіраюць подпісы за вылучэнне З.Пазьняка і М.Чыгіра, і ў сярэднім у нас у Гродне кожны трэці грамадзянін не баіцца паставіць свой подпіс.

Днямі старшыня аблвыканкама А.Дубко за лепшыя эканамічныя вынікі ў 1998 г. уручыў Ленінскаму раёну Гродна «ганарова-чырвоны» сцяг. Вельмі хваліў, што з усёй вобласці толькі тут досыць стабільна працавалі ўсе прадпрыемствы. Варта было б яшчэ дадаць, што менавіта ў гэтым раёне А.Лукашэнка меў найгоршыя вынікі на абодвух сваіх рэферэндумах: і па колькасці ўдзельнікаў, і па станоўчых адказах. Можа, гэта толькі супадзенне, але менавіта тут знаходзіцца дом урада БНР, месцы, дзе жыў К.Каліноўскі і дзе працаваў паўстанцкі ўрад часоў Т.Касцюшкі. Сёння ў старым горадзе месціцца і штаб-кватэра БНФ, над якой лунае бел-чырвона-белы сцяг.

Жывучы ў гэтым раёне, можна атрымаць па пошце ліст з наступным адрасам: «Гародня, Беларуская Народная Рэспубліка». У аддзяленні сувязі ніхто не здзівіцца, не адашле ліст назад і тым больш не выкіне. Неяк у пікетчыкаў, якія выйшлі на вуліцу, гараджане разабралі дзве тысячы заяваў аб грамадзянстве БНР. Гэта яшчэ не значыць, што ўсе яны запоўняць бланк. Галоўнае, што яны зацікавіліся гэтай акцыяй. Гэта тут у рабочым інтэрнаце дзве ініцыятыўныя жанчыны могуць сабраць сто заяваў на атрыманне грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі. Такія ж заявы прысылаюцца па пошце таксама сюды — у «ленінскі» раён, у рэдакцыю газеты «Пагоня». Карацей кажучы, гродзенцы яшчэ пабойваюцца мінскага прэзідэнта, але ўжо не так, як раней. Надакучыла баяцца.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Вольная хваля з Польшчы

**Польская Нацыянальная рада па тэлебачанні і радыё падтрымала заяўку беластоцкай фірмы «Racja» на права вяшчаць на ультракароткіх хвалях.**

Як мы паведамлялі, у Польшчы рыхтуецца да адкрыцця радыё пад рабочай назвай «Вольная Беларусь». У мінулы панядзелак з'явіліся новыя звесткі пра гэты праект.

Шэф Нацыянальнай рады па тэлебачанні і радыё Балеслаў Сулік у інтэрв'ю *«Gazecie Wyborczej»* паведаміў, што рашэнне было прынятае аднагалосна, і беларускае насельніцтва Беласточчыны нарэшце будзе мець сваё радыё. Магутнасць перадатчыка дастатковая, каб станцыю было чутно ў Мінску. Але трансляцыя пачнецца не так хутка. Для таго, каб атрымаць ліцэнзію на вяшчанне, *«Racji»* прыйдзецца яшчэ правесці шэраг розных тэхнічных узгадненняў з міністэрствам сувязі, што можа заняць некалькі месяцаў.

Карэспандэнт *«Gazety Wyborczej»* пацікавіўся, ці не стане гэтае радыё для грамадзянаў Беларусі тым, чым было для палякаў радыё «Свабода». Сп.Сулік не звязвае адкрыццё беларускага радыё з палітыкай. Палітычным актам з ягонага боку было б, наадварот, не даць дазволу на права вяшчання. Ягоная Рада не залежыць ад урада, яна выдае такія ліцэнзіі польскім грамадзянам і фірмам амаль штотыдзень. Новае радыё будзе мець інфармацыйна-культурную арыентацыю. Але няма сумнення, што яно дапаможа развіццю дэмакратыі ў Беларусі, як любая іншая крыніца незалежнай інфармацыі.

Фірма *«Racja»* — камерцыйнае прадпрыемства, кантрольны пакет якога мае Саюз беларусаў у Польшчы. Кіраўнік фірмы Яўген Вапа падкрэсліў, што радыё будзе адрасаванае беларускай нацменшасці ў Польшчы. Удзельнік гэтага праекта Віктар Стахвюк, адзін з заснавальнікаў на пачатку 90-х гадоў Беларускага дэмакратычнага аб'яднання ў Польшчы, не хавае, што яны заўсёды супрацоўнічалі з апазіцыяй у Беларусі і не маюць намераў спыняць гэтае супрацоўніцтва на радыё *«Racja»*. Фінансавацца праект будзе з уласных сродкаў фірмы *«Racja»*. Трансляцыя будзе весціся на беларускай мове, спачатку дзве гадзіны ў дзень, а потым кругласутачна.

**П.Ж.**

# Слухай сваё!

**Роўна год таму распачалася акцыя «Вольныя танцы». Сталічныя і мясцовыя беларускія рок-гурты выступалі з «Вольнымі танцамі» ў многіх гарадах Беларусі. Вынікам акцыі стаў выпуск зборнага дыску «Слухай сваё». Яго прэзентацыі і чарговыя канцэрты «Вольных танцаў» адбудуцца ў Мінску 25 сакавіка і 1 красавіка. Прыходзьце ў клуб «Акварыум», пачатак а 19-й, кошт уваходнага квітка 450 тысяч.**

# На Вялікдзень камуністы будуць змагацца за Саветы

**Выбары ў мясцовыя Саветы прызначаныя ўладамі на дзень каталіцкага Вялікадня і праваслаўнай Вербніцы. Замест падрыхтоўкі да вялікіх царкоўных святаў вернікаў вымушаюць бегчы на выбарчыя ўчасткі.**



Апошнім часам улады быццам незнарок робяць хрысціянам «падарункі». Не так даўно быў прыняты прэзідэнцкі ўказ аб святах, якім другі дзень Вялікадня аб'яўлены працоўным днём. Нарэшце дабраліся і да першага дня Вялікадня, прымеркаваўшы да яго палітычную акцыю. На выбарчых участках замест чырвоных велікодных яйкаў прад'яўляць спісы кандыдатаў, сярод якіх засталіся чырвоныя (камуністы) і карычневыя (патрыёты).

Дэмакратычныя партыі адмовіліся прымаць удзел у выбарах, якія праводзяцца па недэмакратычным законе. Ніводную з прапановаў місіі АБСЕ ў Мінску палатачныя «заканадаўцы» не выкарысталі. Ды і як можна правесці свабодныя выбары ў краіне, дзе парушаюцца правы чалавека і не вырашаны канстытуцыйны крызіс, што бярэ пачатак ад апошняга рэферэндуму. Усё гэта выглядае нейкім тэатрам абсурду. Партыйных і незалежных кандыдатаў, якія вылучаліся праз збор подпісаў, добра прасеялі. На апошнім этапе не пашанцавала ліберальна-дэмакратычнай партыі, якая ў нядаўняй заяве назвала мясцовыя выбары «фальшывымі». У выніку толькі ў Мінску ажно 13 яе кандыдатаў не прайшлі рэгістрацыю. Усяго з передвыбарчай барацьбы выбылі каля 500 кандыдатаў, прызнаных «незаконнымі».

Выбары ў мясцовыя Саветы найбольш патрэбныя вертыкалі, якая хоча працягнуць сваё панаванне і ў наступным стагоддзі. Нездарма ў сельскай мясцовасці і раённых цэнтрах на кожнае дэпутацкае крэсла зарэгістравана пераважна па адным кандыдаце. Тут ёсць свая выгада — правесці кампанію ў адзін тур, што фінансуецца з рэспубліканскага бюджэту. Паўторнае галасаванне ўжо давядзецца праводзіць за грошы мясцовай вертыкалі. Ісці на выбары сялянам давядзецца, асабліва калі кандыдатам з'яўляецца старшыня мясцовага калгаса. Яму і агітаваць за сябе не трэба. Кожны калгаснік на кантролі, не прагаласуе — не атрымае сена. Кандыдаты ад сельскагаспадарчага сектара складаюць 39,5 працэнтаў, прадстаўнікі прамысловых прадпрыемстваў і чыноўнікі — 25,5 працэнтаў. Астатнія — «праслойка», інтэлігенцыя: настаўнікі, урачы і г.д.

Передвыбарчая «барацьба» зводзіцца пераважна да ўгавораў: прыйсці і прагаласаваць. Так, на бацькоўскім сходзе настаўнікі просяць прагаласаваць за кандыдата — дырэктара школы. Партыйным, у Брэсце, напрыклад, не дазваляюць друкаваць улёткі. Начальства розных узроўняў рвецца да ўлады пад «беспартыйнай» шыльдай. А ў Мінску хоча стаць дэпутатам казацкі атаман, толькі невядома, чые інтарэсы ён будзе абараняць. Самае дзіўнае, што ў гэтага атамана, як высветліла выбарчая камісія, ёсць працоўная кніжка, і яму нехта плаціць зарплату «за атаманства».

У чыноўнікаў-кандыдатаў дастаткова грошай на паперу і клей. У Брэсце кандыдаты пачалі так актыўна абклейваць сваімі ўлёткамі пад'езды дамоў і агароджы, што камунальныя службы папрасілі іх спыніцца. Колькі грошай выцягнуць «вертыкальныя» выбары з нашай кішэні? Паводле афіцыйных дадзеных, спатрэбіцца 1 трыльён 100 мільярдаў рублёў. Толькі ў Гродзенскай вобласці на правядзенне гэтай кампаніі патрацяць каля 25 тонаў паперы, а кожная тона каштуе больш за 200 мільёнаў рублёў. А да часу магчымага паўторнага галасавання папера хутчэй за ўсё падаражэе. Памяшала выбарчай кампаніі ў Саветы і небывалая паводка. Як будуць цяпер галасаваць адселеныя людзі, калі выбарчыя ўчасткі заліло вадою? Нават прырода працівіцца гэтай «вертыкальнай» кампаніі, быццам падказвае нябесная ўлада, што на Вялікдзень і Вербніцу найлепш заняцца хрысціянскім святам, наведаць сваіх бацькоў. Усё астатняе — «сует сует».

**Алесь ДАШЧЫНСКІ**

# Замяталін загаварыў

Нястомны прэзідэнцкі прапагандыст і агітатар палкоўнік Замяталін пасля даволі працяглага перапынку зноў вярнуўся да звыклага для сябе занятку — дэзінфармацыі. Відаць, ён адчуў, што ад нуднай папяровай работы ва ўрадзе можа згубіць свае прафесійныя палітрукоўскія навыкі.

У інтэрв'ю Беларускаму тэлебачанню віцэ-прэм'ер разважаў аб такіх паняццях, як здрада і дыктатура. Замяталін сцвярджаў, што «здрада» і «работа на карысць іншых» ва ўсе часы добра аплачвалася. Тут палкоўнік мае неблагі ўласны вопыт. Не ведаю, здраджваў калі-небудзь Замяталін народу, жонцы ці каму.яшчэ, а вось былых сваіх патронаў Уладзімір Пятровіч здаваў. Вядома, што ён падчас прэзідэнцкіх выбараў 1994 г. быў актыўным членам штаба Вячаслава Кебіча. У ягоныя абавязкі ўваходзіла паліваць брудам іншых прэтэндэнтаў. Але ўжо пасля першага туру выбараў Замяталін раптоўна замаўчаў і неўзабаве перамятнуўся да прэзідэнта Лукашэнкі, які даў палкоўніку-перабежчыку больш аплачваемую пасаду — віцэ-прэм'ера. Што да дыктатуры, дык яе Замяталін, па яго ўласным прызнанні, шчыра падтрымлівае. На думку палкоўніка, «калі кіраўнік дзяржавы ўводзіць у краіне некаторыя абмежаванні дзеля выканання дадзеных народу перадвыбарчых абяцанняў і ягоная дзейнасць падтрымліваецца большасцю насельніцтва, а апазіцыя называе гэта дыктатурай, то я за такую дыктатуру».

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Кастусь ТАРАСАЎ

# Славянска-праваслаўнае трызненне для беларусаў

Ідэолагі чарговага далучэння Беларусі да Расіі з радасцю выбудоўваюць экзатычныя канструкцыі ідэйнай падтрымкі адраджаемай імперыі. Адна з апошніх «тэорыяў» датычыць «сёмай» сусветнай цывілізацыі, якой нададзена назва *«славянска-праваслаўнай»*. Артыкул Ул.А. Аксёнава, прысвечаны гэтаму «сёмаму» цуду свету, апублікавала газета «Содружество НГ» (№ 2, 1999). Пра шэсць астатніх цывілізацыяў — *«западную», канфуцыянскую, мусульманскую, індуісцкую, лацінаамерыканскую, афрыканскую»* — аўтар не сказаў ніводнага слова. «Заходняя» цывілізацыя пазначана двукоссем (магчыма, дзеля іроніі). Было б лагічна ўбачыць у спісе «славянска-каталіцкую цывілізацыю» (Польшча, Чэхія, Харватыя, Славакія, частка Беларусі), але, відаць, па аўтарскіх мерках, славяне-каталікі да стварэння самастойнай цывілізацыі няздольныя. Аўтарскі пафас скіраваны на праваслаўных славянаў. *«Несмотря на свою относительную малочисленность, представителей данной цивилизации насчитывается в современном мире около 200 млн. человек*, — піша Ул. Аксёнаў, — *они продолжают контролировать одну шестую часть земного шара, основные геостратегические коммуникации в Евразии, около половины природных запасов и энергоресурсов мира, обладают ядерным оружием»* (апошняе азначае, што з гэтай «цивилизацией» жартаваць не варта. — **К.Т.**). Натуральна, што *«ядром славянско-православной цивилизации остается Российская Федерация»*. Да ядра, як вядома, прыцягваюцца электроны. У такой электроннай якасці *«представители славянско-православной цивилизации* (СПЦ. — **К.Т.**) *образуют большую часть населения Республики Беларусь и Украины»*. З сусветнай цывілізацыі аднак, усходнеславянская геаграфія стасуецца не надта добра, і таму аўтар смела дадае: ***«К славянско-православной цивилизации относит себя большинство населения Греции, Румынии,*** *Югославии, Республики Сербской в составе Боснии и Герцоговины»*.

Чаму ж, аднак, працяглы гістарычны час ніхто пра СПЦ не ведаў, не пісаў, нават, не чуў? *«Кризис славянско-православной цивилизации,* — тлумачыць аўтар, — *связан с известными в истории событиями в России 1917 года, когда перестала существовать Российская империя — главный форпост славянского мира в международных отношениях»*. Цяпер зразумела: каб аднавіўся фарпост, трэба адрадзіць Расійскую імперыю. Хто ж возьме на сябе мужнасць абвясціць свету пра імперскія памкненні напрыканцы другога тысячагоддзя, калі імперыі выйшлі з палітычнай моды. Тут аўтар схільны да казачнай інтэрпрэтацыі: *« Характерно, что в процессе интеграции роль «ведущего локомотива» принадлежит не России, а Белоруссии. Это убедительно свидетельствует о том, что не может идти никакой речи об «имперской» политике Москвы»*. Толькі і застаецца паспачуваць няшчаснай Маскве, якую беларускі «лакаматыў» пацягнуў у імперыю пад назвай Саюз, ці ў тэрмінах опуса — у «славянска-праваслаўную цывілізацыю». Тым не менш карыць будуць мець не толькі «ведущие» беларускія чыгуначнікі. *«В целом дальнейшее укрепление Союза — это первый шаг на пути* ***объединения славянских и других народов бывшего СССР и восстановления их былой геополитической роли****»*.



Гэтая тэза атрымалася ў Аксёнава вельмі цьмянай, амаль як у дэльфійскага аракула. Якую геапалітычную роль мелі народы «бывшего СССР»? Усім на свеце вядома, што ніякай. Напрыклад, Эстонія ці Арменія, ці Кіргізія, ці сённяшні «лакаматыў» — Беларусь? Роўную нулю. І думаць не насмельваліся сакратары рэспубліканскіх ЦК пра такую роль у савецкія часы. Што ж тады азначае слова «восстановление»? Што ў новым Саюзе яны зноў атрымаюць нулявое значэнне? Нешта не бачна, каб нехта, апроч Беларусі, імкнуўся аднавіцца на такіх ролях. Ну, можа таму, што гэта народы не праваслаўныя і не маюць адпаведных «вытанчаных» якасцяў, якія набыло за стагоддзі, а таму і здольнае надаць сваім вернікам праваслаўе. Бо *«в основу славянского православия было положено «добротолюбие», согласно которому человек по природе добр, а зло в мире — отклонение от нормы»*. Чамусьці ўсе, хто сутыкаўся з «славянска-праваслаўным добротолюбием», хадзіў з разбітым носам: ужо на нашай памяці былі сапёрныя рыдлёўкі ў Тбілісі, забітыя ў Вільні і Рызе, Афганістан, Чачня, Малдова. Магчыма, усе гэтыя чачэны, літоўцы, афганскія пуштуны, грузіны — ненармальныя.

*«Об истоках СПЦ,* — працягвае Ул. Аксёнаў, — *нам помогает узнать богатый русский язык, который до сих пор еще не утратил своей ясности и привлекательности»*. Варта адзначыць, што калі і страціць прывабнасць, дык усё роўна прымусяць вывучыць. Беларусь тут найлепшы прыклад. Бо *«в контексте вышесказанного понимание метафизического смысла знаковых систем, среди которых язык занимает особое место, позволит по-новому оценить окружающую действительность, наметить ценностные ориентиры и приоритеты движения вперед»*. Такі прыярытэт руху наперад як руская мова у Беларусі, дзякуючы прэзідэнту Лукашэнку, ужо дзейнічае, перашкодаў ці замінак на шляху ў імперыю з гэтага боку не будзе.

Што тычыцца незалежнасці і самастойнасці Беларусі, дык дзеля адраджэння «цывілізацыі», якая налічвае 200 млн. прадстаўнікоў, беларускі прэзідэнт і ўрад пададуць прыклад ахвяравання сваім народам. *«Праблемы выживания СПЦ актуальны и важны для всех народов и племен многонациональной России, представляющей собой государственное и стратегическое единство славян и представителей других российских национальностей»*. Так што, хутка маем выбіраць (магчыма, праз рэферэндум), ці назвацца нам «пляменем», ці «другой российской национальностью».

Паколькі галоўнае праваслаўнае начальства месціцца ў Маскве, дык эксплуатацыя рэлігійных пачуццяў беларусаў праваслаўнай царквой служыць поспехам «ядра цивилизации». Чым больш на Беларусі будуецца праваслаўных храмаў і капліцаў, тым больш шанцаў патрапіць у «цывілізацыю».

*«Колоссальная работа по ускорению процесса дальнейшей интеграции России и Белоруссии,* — заклапочваецца аўтар напрыканцы свайго опуса, — *будет зависеть от... плодотворной законотворческой работы российских и белорусских парламентариев»*.

Трэба думаць, што «работа» будзе плённай, паколькі Ул. Аксёнаў, які так старанна выклаў змест і задачы СПЦ, — адказны сакратар Парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі. Каб не аўтарская шчырасць, дык ніколі шмат людзей не ўявілі б сабе, пра што гавораць дэлегаваныя парламентарыі на такіх сходах.

# Нацыянальная ідэя і нацыянальныя сімвалы

Юры ХАДЫКА

Нацыянальная ідэя, безумоўна, складанае паняцце. Яно можа быць разгорнута — стаць тэмаю гістарычных, культуралагічных, палітычных, педагагічных ці філасофскіх трактатаў. Але можа быць і згорнутым. Зведзеным да лаканічных сімвалаў. Нацыя, стварыўшы дзяржаву, засвойвае дзяржаўныя сімвалы і пераўтварае іх у сімвалы нацыянальныя, якія і суправаджаюць у далейшым усю гісторыю нацыі. Ускосна сведчачы аб самім факце існавання нацыі і выяўляючы яе нацыянальную ідэю.

Усе гэтыя тэзы лёгка падмацаваць безліччу гістарычных прыкладаў. Некаторыя з іх выключна цікавыя. Магчыма, не ўсе задумваліся, чаму Гітлер назваў створаную ім дзяржаву Трэцім Рымам? Гэта значыць, трэцяй імперыяй. І чаму гербам гэтай імперыі стаў чорны арол? Гітлер быў абраны прэзідэнтам дэмакратычнай рэспублікі. Аднак серыяй рэферэндумаў рэспубліку знішчыў. Сканцэнтраваў усю ўладу ў сваіх руках. А захапіўшы сілай землі, якія былі страчаныя Германіяй у выніку І сусветнай вайны, аднавіў Германскую імперыю, створаную Бісмаркам у 70-я гады 19 стагоддзя. Гэтая, другая на падліках Гітлера, імперыя была практычна мананацыянальнай дзяржаваю. І, быццам, імперыяй называцца не мела права. Але ж яна была ўтвораная ў выніку захопу Прусіяй цэлага шэрагу незалежных нямецкіх дзяржаваў. Памяць аб іх колішнім існаванні да сённяшняга дня захоўваецца ў федэратыўнай пабудове ФРГ. Першай жа імперыяй — крыніцаю нямецкай вялікадзяржаўнай традыцыі — была свяшчэнная Рымская імперыя германскага народа, якую стварыў Атон І яшчэ ў 10-ым стагоддзі. І якая існавала да 1806 г., калі была ліквідаваная Напалеонам Банапартам, пасля бітвы пад Аустэрліцам («бітвы трох імператараў»).

Слова «Рымская» ў назве імперыі Атона І паказвае на крыніцу гітлераўскай сімволікі. Узорам для ўсіх гербаў з выяваю арла з'яўляецца сімволіка Старажытнага Рыма. Белы арол і чырвоны сцяг былі ягонымі сімваламі. Белы рымскі арол пераўтварыўся ў чорнага двухгаловага мутанта на сцягах Візантыі — Усходняй Рымскай імперыі, чые ўладанні прасціраліся на двух кантынентах, а сталіца раскінулася на берагах Басфора, які гэтыя кантыненты падзяляў. Пасля гібелі Візантыі ў 1453 г. на яе імперскую спадчыну выявіліся ажно тры прэтэндэнты.

Першым, і найбольш натуральным, стала Атаманская імперыя. Туркі, якія захапілі Канстанцінопаль, не спынялі сваёй агрэсіі, пакуль не заваладалі ўсімі землямі, якія калісьці належалі Візантыі. Але як мусульмане яны адмовіліся ад сімволікі хрысціянскай імперыі.

Тады і з'явіўся чорны двухгаловы арол на штандарах Свяшчэннай Рымскай імперыі германскага народа, сэрцам якой у XV стагоддзі была Аўстрыя. І калі Бісмарк, які разбіў Аўстрыю, зрабіў аб'яднаную Германію спадчынніцай яе імперскіх амбіцыяў, чорны (але аднагаловы!) арол стаў гербам Германскай імперыі. Так акольным шляхам чорны арол, згубіўшы адну галаву, даляцеў да гітлераўскага Рэйха. І не згубіць яе ён не мог, таму што існаваў трэці, апошні, прэтэндэнт на імперскую веліч Візантыі, які ўжо завалодаў двухгаловым мутантам.

Яго зрабіў дзяржаўным сімвалам Пётр І, які ў 1721 г. дамогся прызнання Расійскага царства імперыяй. Пры гэтым ён адмовіўся ад Георгія-перамоўцы, што быў раней гербам Вялікага княства Маскоўскага. Арол як сімвал Расіі адрадзіўся пасля 80 гадоў камуністычнага бяспамяцтва, хоць і стаў залатым.

Аднак і белы рымскі арол выжыў. Выжыў у якасці герба Польскага каралеўства, а потым і польскага нацыянальнага сімвала. Што і паказвае на глыбінныя гісторыка-культурныя сувязі польскай дзяржаўнасці са старажытна-рымскай традыцыяй. Аднак і гэтыя прыклады не вычэрпваюць усе выпадкі выкарыстання арла ў якасці нацыянальнага сімвала. Так, шэры арол з'яўляецца гербам ЗША. А зусім нядаўна адрадзіўся і чорны двухгаловы арол.

Беларуская нацыянальная сімволіка ў параўнанні з «арлінай» куды больш арыгінальная. Добра вядома, што «рыцар на кані з мячом» стаў гербам Вялікага Княства Літоўскага і Рускага ў 1258 г. Як паўстаў гэты сімвал? Хто і чаму даў яму назоў «Пагоня»? Верагодна, мы ніколі не даведаемся дакладных адказаў на гэтыя пытанні. Кампазіцыйна ён блізкі да кананічнай выявы св.Дзмітрыя.

Таму паходжанне нашага бел-чырвона-белага сцяга выглядае значна больш празрыстым. Ягонай першакрыніцай з'яўляецца штандар Хрыста. Той, хто хаця б раз уважліва разглядаў абраз «Уваскрашэнне Хрыстова», не мог не заўважыць, што ўваскрослы Хрыстос трымае ў руцэ белы сцяжок з чырвоным крыжам. Гэты сцяжок стаў сімвалам хрысціянства. Сімвалам асабліва папулярным на ўскрайках хрысціянскага свету. Так, напрыклад, англійскі нацыянальны сцяг — белае палотнішча з чырвоным крыжам. Не дзіва, што і нашыя продкі, якія ад пачатку XII да канца XVIII ст. знаходзіліся ў бесперапынным збройным кантакце з мусульманскімі краінамі, усведамлялі сябе фарпостам хрысціянства. Таму і стаў сцяжок Хрыста адзнакаю хрысціянскага воіна.

Але дзяржаўны трохпалосы сцяг даў бел-чырвона-белую камбінацыю. Падобна на тое, як і на святарскім адзенні сімвал уваскрашэння Хрыста пераўтварыўся ў бел-чырвона-белую стужку. Пры ўтварэнні канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай у 1569 г. у якасці сцяга новай дзяржавы была зацверджаная простая камбінацыя сцягоў Кароны і Вялікага Княства, што дало чатыры паласы. Дзве белыя і дзве чырвоныя. Аднак ні чырвона-белы польскі, ні бел-чырвона-белы беларускі сцягі не перасталі існаваць.

Беларускія нацыянальныя сімвалы адрадзіліся пры абвяшчэнні БНР і з таго часу суправаджаюць беларускае нацыянальнае адраджэнне. Глыбока фальшывымі і абразлівымі для нацыянальнай годнасці выглядаюць спробы «манкуртаў» зняславіць гэтыя старажытныя сімвалы — набыткі шматвяковай беларускай гісторыі і культуры.

Сама гісторыя дала беларусам сапраўды святыя сімвалы — «Пагоню» і бел-чырвона-белы сцяг. Яны і ёсць канцэнтраванай і лаканічнай выяваю нашай нацыянальнай ідэі. Выразна і наглядна адрознай ад «ідэяў» суседніх нацыяў. Нельга ж сур'ёзна прымаць папрок, што і на літоўскім гербе конны воін. Літоўцы мелі з намі агульную дзяржаўнасць. Прыхільнікам абсалютнай унікальнасці дзяржаўнай сімволікі трэба нагадаць, калі прыведзеных вышэй прыкладаў недастаткова, што Англія і Масква маюць абсалютна аднолькавы герб — св.Георгія, які паражае цмока.

Наш бел-чырвона-белы сцяг абсалютна унікальны. Ні адна дзяржава ў свеце такога не мае. Таму сорамам і фарсам быў першы рэферэндум, арганізаваны А.Лукашэнкам, які праводзіўся на тле «Дзяцей ілжы». Мана бумерангам вернецца да аўтара «рушніка на фоне закату над дрыгвою». Крыху мадэрнізаваная недарэчная сталінская сімволіка — абраза беларусам. І відавочнае злачынства з боку тых, хто галасаваў за яе вяртанне. Вольна ці міжвольна, у моц духоўнай ляноты, яны падтрымалі палітыку «манкуртызацыі».

Гэткага ж масавага абмеркавання заслугоўвае і пытанне пра гімн. Гэтую праблему ўзняў Вярхоўны Савет 12-га склікання, але так і не вырашыў яе. Сённяшні прэзідэнт проста вярнуў гімн непаўнавартаснай, паднявольнай краіны, якой была БССР. Чым у чарговы раз абразіў нацыянальныя пачуцці беларусаў. Што, дарэчы, зусім не дзіўна, бо ўся ідэалогія сённяшняй улады антынацыянальная.

Лаканізм і выключная эстэтычная чысціня нашых галоўных нацыянальных сімвалаў паўстаюць супраць палітыкі варварызацыі беларускай культуры, супраць гістарычнага беспамяцтва.

# Першая грамадзянская

**Адзін з драматычных парадоксаў нашай гісторыі – знішчэнне свайго і прышчапленне чужога. Так і з палітыкай увядзення ў Беларусі структураў нейкага «белорусского казачества», якога, як цалкам слушна зазначыў Кастусь Тарасаў (Навіны, № 28), у Беларусі ніколі не існавала. І нават самыя «светлыя» старонкі казацкага мінулага ў беларускім кантэксце зусім не такія ясныя, як нас вучылі. Маю на ўвазе Хмяльніччыну і казацка-сялянскую вайну ў Беларусі, калі «паказачанай» была найбольшая за ўсе часы частка беларусаў.**

Традыцыйная трактоўка падзей 1648-51 гадоў даўно не вытрымлівае навуковай крытыкі. Нагадаю, што гэтая вайна і яе героі, колькі можна помніць, маляваліся выключна чорнабелымі фарбамі: украінскія казакі «вызваляюць» беларускія гарады, выбіваючы толькі «польскую» шляхту, да казакоў масава далучаецца мясцовы люд, а польска-літоўскае войска топіць народнае паўстанне ў крыві. Гетман Януш Радзівіл падаваўся наогул «душителем белорусского народа».

Такія погляды ці зусім не абгрунтоўваліся, ці іх аргументацыя мела, як правіла, далёкае ад навукі паходжанне. Цытаваліся звычайна пасланні царскага ганца Кунакова або маскоўскага пасла Ункоўскага, якія свядома згушчалі фарбы і спрашчалі сітуацыю ў Беларусі, інтэрпрэтуючы падзеі ў выгадным для Масквы святле, увязваючы ўсё ў барацьбу «за благочестивую крестиянскую веру».

Сама больш «бяліліся» ўзаемадачыненні ўкраінскіх казакоў з насельніцтвам беларускіх паветаў, а «чарнілася» палітыка палявога гетмана князя Януша Радзівіла. Цвердзілася нават пра салідарнасць у «нацыянальна-вызваленчай вайне» (так яе зноў трактуе і новае кіраўніцтва «Беларускай Энцыклапедыі»), пра «вызваленчую місію» казакоў Хмяльніцкага. Але падобныя ідэалагемы не маюць нічога агульнага з рэаліямі тагачасных Украіны і Беларусі. Дакладна так адкрытая інтэрвенцыйная вайна, якая забраўла ў Беларусі больш за палову насельніцтва, яшчэ нядаўна называлася ідэолагамі ад гісторыі «бескарыслівай дапамогай» братняму народу.

У мінулым усё было празаічней. Украінскі гетманат планаваў стварыць сваю дзяржаву, у межы якой думалася ўключыць і тэрыторыі паўднёва-ўсходняй Беларусі, прынамсі Падняпроўе і Палессе. Таму Хмяльніцкі імкнуўся пашырыць рух менавіта на гэтыя землі. Інспірацыя выступленняў у Беларусі гетманам Хмяльніцкім пацвярджаецца дакументальна. Пачынаючы з траўня 1648 года ён засылаў на поўдзень Вялікага Княства сваіх людзей з універсаламі, у якіх заклікаў мужыкоў выступаць супраць паноў. Межы гэтых абшараў таксама вызначаліся ў універсалах: «...аж до Борисова и далей, до Бихова теж, Могилева и далей». Затым з'явіліся казацкія загоны, якія распачыналі ваенныя дзеянні, і да іх далучаліся сацыяльныя нізы – паўставала «чэрнь».

Як казакі абыходзіліся з мясцовым насельніцтвам? Як казакі! Правілі іхнае «права шаблі». На самой Украіне ад казакоў моцна цярпелі гарады і мястэчкі. І ў нас ахвярай вайны стала не толькі шляхта, якая — NB — таксама з'яўлялася часткай беларускага народа, але і мяшчане, а нават сяляне, не гаворачы ўжо пра яўрэяў. У літаратуры свядома замоўчваліся факты іх паўсюднага вынішчэння. Між тым, як і ў украінскіх ваяводствах, іудзеі тут масава выбіваліся – тысячы іх палегла ад казакоў у Гомелі, Пінску і іншых гарадах Беларусі.



Што да князя Радзівіла, то гетман быў прыхільнікам сапраўды рашучай расправы з Хмяльніцкім і казакамі, але зусім не любімі сродкамі. Ягоным прынцыпам было бязлітасна караць бунтаўнікоў і іх паплечнікаў пры літасцівым стаўленні да пераможаных і да тых, хто здаўся ці наогул не браў удзелу ў бунце. Яшчэ да пачатку дзеянняў, зграмадзіўшы армію на восень 1648 года ў абозе пад Глускам, гетман выдаў «вайсковыя артыкулы», у якіх патрабаваў ад жаўнераў цярпімасці, спакою і – што вельмі важна — аберагання сялян, не замяшаных у бунце!

Так, са школьных падручнікаў ведаем пра трагічны лёс Пінска. «Уціхамірванне» паказачанай палескай сталіцы абярнулася вялікай трагедыяй горада. Але мала хто зважае на тое, што самога Радзівіла тады ў Беларусі не было – ён падаўся на элекцыйны сойм. Што штурмавалі, рабавалі і палілі найміты — драгуны Гасеўскага, рэйтары Шварцкопфа і пяхота Падалеўскага. А частка казакоў — такі выратавала сябе — падпаліўшы горад, яны ўцяклі берагам Прыпяці.

Канцлер Альбрэхт Радзівіл моцна ўпікаў братанка-гетмана, што без яго найміты знішчылі горад і спустошылі цэлае староства. Хто ведае, як сталася б у прысутнасці самога князя. Пэўна, да бязмэтнай разні не дайшло б.

У гэтай сувязі паказальнымі можна лічыць акалічнасці падпарадкавання Бабруйска акурат гэтакай парой, на самым пачатку вясны 1649 года. У горадзе засеў казацкі загон атамана Паддубскага, але праз колькі часу аблогі мяшчане праз сваіх пасланцоў папрасілі Радзівіла прыняць іх капітуляцыю. Гетман паабяцаў гарантаваць ім бяспеку жыцця і захаваць маёмасць пры ўмовах, што 1) усе жыхары па аднаму выйдуць за ўмацаванні, здадуць зброю, харугвы і ўвесь ваенны рыштунак, 2) перададуць Радзівілу атаманаў бунту і ўсіх, хто служыў «пад казацкім знакам», 3) аддадуць яму ключы ад гарадскіх брамаў. Бабруйчане прынялі і споўнілі ўсе ўмовы.

Спасылаючыся на маскоўскія рэляцыі, у нашай літаратуры дасюль пішуць, што пасля капітуляцыі Бабруйска князь не стрымаў слова і расправіўся з сотнямі нявінных мяшчан. Вось жа гісторык, які пазнаў асобу Януша, так не напіша. Архіўныя крыніцы сведчаць, што караў ён менавіта ўдзельнікаў паўстання – як і дамаўляўся з бабруйчанамі: «аддзялілі бунтаўнікоў ад нявінных, больш значных на палю ўбілі, а рэшце, паколькі адважыліся зброю на караля й Айчыну ўздымаць, руку адсеклі; мяшчанам захавана жыццё і маёмасць...». Дадзенае жыхарам Бабруйска слова гетман сапраўды стрымаў і ні-ні не дазволіў жаўнерам рабаваць горада. А суровым аднолькава быў і да сваіх падначаленых. «Пахолка аднаго за адзіную хустку, якую той узяў (у Бабруйску – Аўт.), загадаў на браме павесіць, хустку пры ім паклаўшы» — занатаваў удзельнік падзеяў.

Лёсы Пінска і Бабруйска сталі сімвалічнымі. Савецкая гістарыяграфія кляйміла «здраднікамі» бабруйскіх мяшчан, бо тыя абралі жыццё, чым смерць за чужыя інтарэсы, і славіла гераізм пінчукоў, якія сталі заложнікамі казакоў і мусілі гінуць на вуліцах уласнага места...

Немалазначная дэталь. Войска Радзівіла — дзяржаўная армія Вялікага Княства Літоўскага, якая займалася ўтаймаваннем руху, у значнай ступені складалася і з беларусаў. Гэта бачна з універсалаў на фармаванне ротаў. Большасць палкоўнікаў гэтага войска мела беларускае паходжанне, а некаторыя і праваслаўную веру. Урэшце, разам з рэгулярным войскам на баку гетмана супраць казакоў вяло барацьбу і фармаванне мяшчан ды дробнай праваслаўнай шляхты, аддзелы «валянтарышаў» (добраахвотнікаў) з мясцовага насельніцтва. Звычайная грамадзянская вайна, якія літаральна скаланалі Еўропу XVII стагоддзя...

Па чутках, на ліпень рыхтуецца ўрачыстасць з нагоды 350-годдзя бітвы пад Лоевам – самай лютай і стратнай сечы за ўсю тую вайну. Шанаваць памяць мусім. Спадзяюся, не толькі казацкага боку...

**Генадзь САГАНОВІЧ**

ВЫБАР

# Дыскамфорт для прэзідэнта

**З кожным днём беларускі прэзідэнт адчувае сябе ўсё больш неспакойна. Прычынай псіхалагічнага дыскамфорту Лукашэнкі стала апазіцыйная кампанія па правядзенні ў траўні прэзідэнцкіх выбараў.**

Прэзідэнт апынуўся ў нязвыклай для сябе сітуацыі, калі палітычная ініцыятыва перайшла да суперніка, а ён вымушаны пастаянна апраўдвацца перад сваімі выбаршчыкамі, давер якіх да некалі ўсенароднаабранага пастаянна зніжаецца. Апазіцыя ж пакуль даволі паспяхова выкарыстоўвае перахопленую ініцыятыву. Ва ўсіх раёнах краіны створаныя тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі, тысячы актывістаў збіраюць подпісы за кандыдатаў у прэзідэнты, а няўклюдныя спробы ўладаў рэпрэсаваць Віктара Ганчара і іншых членаў Цэнтрвыбаркама гавораць аб тым, што Лукашэнка асцерагаецца рабіць рэзкія крокі. Просты народ можа не зразумець, чаму гэта «бацька» так панічна баіцца праводзіць выбары. Таму прэзідэнт пакуль абраў тактыку дробных рэпрэсіяў супраць актывістаў выбарчай кампаніі і не зусім удалай контрагітацыі ў дзяржаўных СМІ.

На мінулым тыдні ў Докшыцах Лукашэнка заявіў, што не разумее тых людзей, якія патрабуюць выбараў, бо «калі да ўлады прыйдзе нехта іншы, можа стаць яшчэ горш». І таму, маўляў, людзі, «лепш вам мець сініцу ў руках». «Просты народ мяне падтрымлівае» — паўтараў Лукашэнка як закліканне, аднак вымушаны быў ускосна прызнаць, што ягоны рэйтынг істотна панізіўся. Праўда, прэзідэнт упэўнены, што, калі справа дойдзе да выбараў, народ адумаецца і зноў прагаласуе за яго. Аднак гаварыў прэзідэнт без уласцівага яму імпэту, неяк вяла, дадаўшы пры гэтым, што час пакажа, наколькі правільнай была ягоная палітыка. Праўда, гэта зусім не азначае, што ўлады будуць і надалей паводзіць сябе так пасіўна, але ў апазіцыі з'явіўся рэальны шанец пераламіць сітуацыю на сваю карысць. І чым больш людзей будзе задзейнічана ў падрыхтоўцы выбараў 16 траўня, тым менш у Лукашэнкі застанецца магчымасцяў разгарнуць рэпрэсіі на поўную моц.

Не выключана, што ўлады паспрабуюць нейтралізаваць апазіцыю іншым чынам, напрыклад, прапанаваўшы ёй бясплённы дыялог пры пасрэдніцтве таго ж АБСЕ. Але тым прадстаўнікам антылукашэнкаўскага лагера, якія яшчэ не пазбавіліся ілюзіяў адносна магчымасці дамовіцца з прэзідэнтам, варта памятаць, чым скончыліся падобныя перамовы з удзелам Чарнамырдзіна, Строева і Селязнёва ў лістападзе 1996-га. Таму не трэба цешыць сябе думкай, што вынікам падобнага дыялогу стане добраахвотнае складанне Лукашэнкам прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Гэта не той чалавек, які можа вось так проста здаць уладу, і, пакінуўшы палац у цэнтры Мінска, накіравацца ў свой родны саўгас «Гарадзец». За ўладу ён будзе чапляцца да апошняга, і толькі ад цвёрдасці дзеянняў апазіцыянераў цяпер залежыць паспяховае завяршэнне пачатай імі кампаніі. Пакуль дэмакраты такую цвёрдасць дэманструюць. Той жа Віктар Ганчар заявіў нядаўна, што перамовы з Лукашэнкам адносна правядзення выбараў магчымыя толькі на прынцыпах Канстытуцыі 1994 года.

Тым часам кансультатыўна-назіральная група АБСЕ ў Беларусі ўжо прапанавала прэзідэнту і апазіцыі сесці за стол перамоваў. Можна, канешне, зразумець занепакоенасць шэфа місіі сп.Віка абвастрэннем сітуацыі ў краіне, але трэба памятаць, што жыць у гэтай дзяржаве не сп.Віку, а нам з вамі, і паспешлівасць у прыняцці падобных рашэнняў можа дорага каштаваць Беларусі ў бліжэйшай будучыні. Тым больш, што Лукашэнка пакуль што не выказвае жадання цывілізавана размаўляць са сваімі апанентамі. Падчас той жа паездкі ў Докшыцы прэзідэнт заявіў, што ні аб чым размаўляць з такой апазіцыяй ён не жадае.

У апазіцыі цяпер ёсць канкрэтная задача — забяспечыць падрыхтоўку і паспяховае правядзенне выбараў 16 траўня. Бо калі атрымаецца арганізаваць масавае галасаванне выбаршчыкаў і абранне новага прэзідэнта, нават нягледзячы на вельмі верагодныя рэпрэсіі, палітычная сітуацыя ў Беларусі выйдзе на якасна новы ўзровень. Удзел у гэтых выбарах мільёнаў беларускіх грамадзянаў азначае канец праўлення «першага прэзідэнта», але, каб выбары адбыліся на такім узроўні, патрэбная упартая штодзённая праца многіх тысяч чалавек. І на дасягненне гэтай мэты павінны быць скіраваныя высілкі ўсіх дэмакратычных партыяў і грамадскіх арганізацыяў.

Аб усім астатнім няхай баліць галава ў прэзідэнта. Гэта не апазіцыя, а ён губляе пасля 20 ліпеня мандат, выдадзены калісьці народам, і пераходзіць у разрад палітыкаў-узурпатараў. І тады артыкул Крымінальнага кодэкса аб незаконным прысваенні службовых паўнамоцтваў, якія цяпер улады спрабуюць «прышыць» В.Ганчару і яго камандзе, Аляксандру Рыгаравічу прыйдзецца вывучыць напамяць.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**



© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. E-mail: edit@svaboda.minsk.by ; naviny@hotmail.com http://www.belarus.net/MassMedia/Newspaper/Svaboda/
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996 Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3)
Заказ 525 Нумар падпісаны ў друк 23/03/99 (15:00) Наклад — 17.590 Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.